**Генадзь Праневіч**

# Славянскі рамантызм эпохі нацыянальна-вызваленчых рухаў і вобраз беларускага нацыянальнага адраджэння ў паэзіі Янкі Купалы

**Даклад**

*Брэст*
*Брэсцкі Дзяржаўны Педагагічны Інстытут імя А. С. Пушкіна*
*1993*

Славянскі рамантызм эпохі нацыянальна-вызваленчых рухаў — з'ява цэласная, сістэмная, адзінства якой абумоўлена цэлым шэрагам агульных тыпалагічных заканамернасцяў і перадумоў, і разам з тым унутрана супярэчлівая, разнастайная ў сваім нацыянальным шматквецці, змесце і формах мастацкага ўвасаблення.

Калі фарміраванне новага літаратурнага напрамку вызначалі, бадай што, агульны палітычны і культурны ўздым, этнічна-ду- хоўная роднасць славянскіх народаў, працэсы палітычнага і нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння і складвання нацый, рост нацыянальнай свядомасці, дык характар і накіраванасць гэтых працэсаў адносна розных літаратур істотна адрозніваліся, працякалі з рознай ступенню інтэнсіўнасці і ў розныя прамежкі часу.

Гэтая супярэчлівасць асабліва заўважна на прыкладзе рускага рамантызму.

Так, калі ў цэлым сутнасць славянскага рамантызму вызначылі не столькі вядомыя рысы заходнееўрапейскага прататыпу з яго амаль ці не гіпертрафіраваным культам асобы, колькі абумоўленыя ўздымам нацыянальна-вызваленчай барацьбы адкрыццё і ўзвелічэнне народа, нацыі, калі і асоба раскрывалася часта як «носьбіт калектыўнага пачатку, нацыянальна-патрыятычнага абавязку»[1], дык рускі рамантызм дзівосным чынам спалучаў у сябе ідэю нацыянальна-дзяржаўнай велічы Расіі з ідэямі панславянізму і дзекабрысцкімі ідэямі тыранаборства і вольналюбства, каб затым прарасці ў творчасці М.Лермантава матывамі «дзіўнай любові» да айчыны, а ў Ф. Цютчава, наадварот, заявіць аб сабе ідэяй «особенной стати» Расіі, што мела, відаць, на мэце сцвердзіць яе асаблівую, прарочую місію ў славянскім свеце.

Пры гэтым у ранніх рамантычных паэмах А.С.Пушкіна «Каўказскі палоннік», «Цыганы», «Бахчысарайскі фантан» і «дэманічных» паэмах М.Лермантава можна заўважыць выразны ўплыў заходнееўрапейскага рамантызму, непрыхаванае культываванне так званага «байранічнага» героя, г.зн. пэўны адыход ад традыцыйнай для славянскіх літаратур канцэпцыі асобы[2], дзе ўзаемаадносіны: чалавек — грамадства — звычайна ўраўнаважны, альбо маюць выразны нахіл у бок падпарадкавання інтарэсаў асобы, індывідыума інтарэсам грамадства, нацыі, дзяржавы.

І хоць, як з'ява славянскага рамантызму, паэзія Янкі Купалы, безумоўна, належыць да той яго плыні, якая непасрэдна адлюстравала мэты і пафас нацыянальна-вызваленчага руху славянскіх на-

---

[1] Чабан Т.К. Крылы рамантыкі. Мн., 1982, с.21.

[2] Мы свядома апускаем тут пазнейшую, рэалістычную канцэпцыю асобы ў А.С.Пушкіна, звязаную з уплывам дзекабрысцкіх ідэй і сцвярджэннем ідэі нацыянальна-дзяржаўнай велічы Расіі

родаў канца XVIII - пачатку XX стст., узнікшы на стыку, памежжы двух разнапланавых, шмат у чым ідэйна супярэчлівых «мессианствующих» рамантызмаў — польскага і рускага[1] яна ўвабрала ў сябе па меншай меры дзве буйнейшыя тыпалагічныя лініі развіцця класічнага рамантызму XIX стагоддзя, што ўзыходзяць, з аднаго боку, да творчасці заснавальнікаў і віднейшых прадстаўнікоў польскай рамантычнай школы А. Міцкевіча і Ю.Славацкага, з другога,- да рамантызму рускіх паэтаў дзекабрыстаў.

І калі сувязь з традыцыямі «краёвага» польскага рамантызму найбольш выразна прасочваецца па лініі нацыянальна-вызваленчай ідэі, дык паэзія рэвалюцыйных рамантыкаў Рылеева, Бястужава, Кюхельбекера, часткова Пушкіна і, вядома ж, Лермантава была блізкая Купалу найперш сваімі радыкальнымі сацыяльнымі памкненнямі і грамадзянскай пазіцыяй, імкненнем да гераізацыі тыранаборных подзвігаў мінулага, сцвярджэннем дэмакратычнага рэспубліканска-вечавога ідэалу народаўладдзя як рэвалюцыйнага ідэалу сучаснасці.

У сувязі з гэтым, выклікае цікавасць думка Б.Ф.Стахеева, які разважаючы над абставінамі пераходу ад класіцызму да Рамантызму ў Расіі і Польшчы, адзначаў, што ў адрозненне ад Расіі, дзе існуе «небунтоўны варыянт рамантызму», «у Польшчы рамантызм рэвалюцыя становяцца неадлучнымі адзін ад аднаго»[2]. Прычым калі «вяршынным этапам мастацкага развіцця палякаў у XIX веку прызнаецца рамантызм, дык у Расіі найбольш значныя мастацкі дасягненні гэтага стагоддзя звязаны з рэалізмам»[3].

Тое ж можна сказаць аб місіі і ролі рамантызму у літаратурах іншых паняволеных славянскіх народаў, што пачынаючы з канца XVII стагоддзя ступалі на шлях адраджэння і выходзілі на абсягі сусветнай гісторыі, калі менавіта рамантызм з яго ідэаламі свабоды, з яго дрогкім адчуваннем новага, пад напружаннем драматызму нацыянальна-вызваленчай барацьбы як бы апярэджваў, браў на сябе функцыі і задачы наступнай, больш сталай і ўніверсальнай фазы літаратурнага развіцця, становячыся выразнікам працэса станаўлення нацыянальнай самасвядомасц. народа, уключаючыся ў пошук цэласнай канцэпцыі нацыянальна-духоўнага быцця.

---

[1] Б.Ф.Стахееў у сваёй працы «О польском романтизме в сопоставлении с русским романтизмом», на жаль, не акцэнтуе ўвагі на гэтых разыходжаннях.
[2] Стахеев Б.Ф. О польском романтизме в сопоставлении с русским романтизмом//Польский романтизм и восточнославянские литературы. М. 1973, с.9.
[3] Тамсама, с.15.

І гэта зразумела, бо дасягненне нацыянальнай незалежнасць адраджэнне дзяржаўнасці, культуры, мовы, пошук самастойнага шляху развіцця, вырашэнне іншых грандыёзных задач патрабаваў апеляцыі, звароту найперш да патрыятычнай, нацыянальнай самасвядомасці асобы, да масы, усёй грамады народа і - адпаведна - стварэння шмат у чым іншай, чым у класічным заходнееўрапейскім альбо рускім рамантызме, канцэпцыі асобы.

Калі ў творчасці ранняга Пушкіна, а пасля і Лермантава, што прадстаўлялі літаратуру дзяржаўнай нацыі, праблема гордай, вольналюбівай асобы вырашалася ў цэлым па «байранічнаму» тыпу, калі ў Міцкевіча яна, асоба, усведамляючы сваю выключнасць і абранасць, ахвяруе сабой у імя айчыны і ў гэтым сэнсе як бы абдымае, змяшчае ў сабе увесь народ («Nazywam się milion — bo za miliony//Kocham i cierpie katusze»[1]); дык у Купалы асоба па-за інтарэсамі народа, яго традыцыямі, гісторыяй, мараллю, этыкай, як сведчыць ягоная лірыка, а таксама вобразы Машэкі і Наталькі з эпіка-рамантычнай паэмы «Магіла льва», разглядаецца не інакш, як у сувязі з драмай нацыянальнай раз'яднанасці і гістарычным упадкам народа. Гэтаксама, і паняцце волі асэнсоўваецца ім выключна як каштоўнасць адраджэнцкага кшталту.

І Менавіта таму адносіны да свабоды, адданасць вольналюбівым традыцыям народа выступаюць у Купалы не столькі як паказчык маральнай каштоўнасці і вышыні самой асобы, але як своеасаблівы, рамантычна-гіпербалізаваны крытэрый яе сацыяльнай і нацыянальнай прыналежнасці, а сам паэт, што воляй лёсу ўсклаў на сябе гістарычную адказнасць за ўвесь народ, за яго мінулае і будучае, за ўсё, што было і што павінна быць, які, як вялікі польскі рамантык, прыняў на сябе «мільёнаў разам усіх цярпенне» («Маё цярпенне»), а, звяртаючыся да зямлі продкаў, прызнаваўся ёй, што «загінуць гатоў... у барацьбе//З крыўдай той, што цярпіш ад людзей і ад Бога,//Ад чужынца і ад сына свайго сляпога...»[2], як бы набываў у гэтым выпадку маральнае права на жорсткі вырак адшчапенцам і братам-нявольнікам:

Хто не любіць волі,—
Не нашага роду [І, 271]

Купалаўскі заклік «Не паніжай сам духа вольнага// І ў паніжэнне іншым не давай;» [ІІІ, 294] увогуле стаў адпраўным пунктам яго адраджэнскай праграмы абароны і нацыянальнага ўзвышэння народа.

---

[1] Mickiewicz A. Dzieła. Warszawa, 1955, t.3, s.166.

[2] Купала Я. Збор твораў. У 7 т. Мн., 1973, т.3, с.124. Далей спасылкі на гэтае выданне (з лічбавым абазначэннем тома і старонак) прыводзяцца ў тэксце

Веліч і тытанізм Купалы як паэта глыбока нацыянальнага і адначасна славянскага, усечалавечага якраз і былі абумоўлены тым, што яму першаму з беларускіх паэтаў новага часу ўдалося з незвычайнай паэтычнай сілай, глыбінёй і масштабнасцю раскрыць працэс сацыяльнай і нацыянальна-духоўнай эмансіпацыі і разняволення народа, яго эпахальную маўкліва-урачыстую хаду сонцу з цьмы беспрасвецця», «к славе з бясслаўя» («З кутка жа данняў») «з паніжэння, пацёмкаў« на «свой пачэсны пасад м.ж народамі» («Маладая Беларусь»), Нарэшце, заявіць усяму свету пляве беларусаў «людзьмі звацца», як у славутым вершы-пмне «А хто там ідзе?», дзе паэт манументальна акрэсліў трагічна-велічную постаць і цяжкі гістарычны шлях свайго народа:

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
— Беларусы.
А што яны нясуць на худых плячах,
На руках у крыві, на нагах у лапцях?
— Сваю крыўду.
А куды ж нясуць гэту крыўду ўсю.
А куды ж нясуць па паказ сваю?
— На свет цэлы.
А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несць наўчыў, разбудзіў іх сон?
— Бяда, гора.
А чаго ж, чаго захацелася ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца. [I, 257]

І хоць на целе гэтага, рушыўшага ў свой шлях народа Хрыстовы знакі пакутніцтва і вялікіх цярпенняў, а на рашучым і гнеўным чале выразна віднееецца вянок з церняў, відочна ўздзеты польскімі рамантыкамі,- гэта ўсё ж не Хрыстос народаў, не Месія, а ўсяго толькі народ-праўдашукальнік, што выбраўся у паход па праўду і справядлівасць.

Верачы ў тое, што «к новай долі шлях нам ляжа,// Як на небе млечны шлях» [III, 15], Купала ў зорным россыпе вялікіх і малых народаў і нацый, у кругазвароце гісторыі, тым не менш заўсёды вырозніваў славянскую сцяжыну, разглядаючы працэс абуджэння беларусаў да свядомай гістарычнай дзейнасці як заканамерны вынік і працяг адраджэння ўсіх зняволеных славянскіх народаў.

Адной з праграмных установак ягонай творчасці з’явілася сцвярджэнне ідэі, што «кожны народ сам сабе пан;//І беларус можа змясціцца ў сям'і нялічанай славян!» [1, 150]. Славянскі статус свайго

народа паэт выразна падкрэсліваў і ў цэлым шэразе іншых выпадкаў напрыклад, заклікаючы Маладую Беларусь заняць «свой пачэсны пасад між славянамі»[1], ці папярэджваючы ворагаў і нядобразычліўцаў Беларусі і «беларушчыны», што хопіць «першых-лепшых з боку браць, // Славяніна-беларуса//Вечна ў лапці абуваць» [III, 15].

Пры гэтым паэт не проста аддаваў даніну ідэям панславянізму: агульнаславянскі кантэкст бачання натуральна вынікаў у яго як з агульнага гістарычнага лёсу і даўніх цесных кантактаў і сувязяў з братнімі народамі, так і з рэальнай гісторыі адраджэння беларусаў, якія апошнімі з буйных славянскіх народаў выходзілі на авансцэну сусветнай гісторыі, як бы завяршаючы тым самым эпахальны, драматычны працэс нацыянальна-вызваленчай барацьбы і змагання Славянаў за волю і незалежнасць, што расцягнуўся амаль на паўтары стагоддзі.

У гэтым сэнсе купалаўскі рамантызм аказаўся найбольш блізкі да рамантызму прыгнечаных, ступіўшых на шлях адраджэння славян — палякаў, балгараў, славакаў, чэхаў, украінцаў, сербаў, харватаў, славенцаў. А паколькі характар і абставіны нацыянальнага прыгнёту, ва ўмовах якіх апынуліся амаль ці не ўсе славянскія народы, і адраджэння, якое супала з працэсамі ўтварэння нацый, іх барацьбы за аднаўленне дзяржаўнасці, нацыянальную культуру і мову, аказаліся надзвычай падобнымі, усё гэта абумовіла змястоўную тыпалагічную сувязь, а часта, і непасрэдныя перазовы творчасці Купалы з творчасцю многіх выдатных славянскіх рамантыкаў — папярэднікаў нашага паэта.

Нездарма, купалаўская рамантычная традыцыя жальбы, плачу, дакораў сабе і паняволенаму народу, што церпіць векавы прыгнёт, матывы нацыянальнага бясхацця і адначасна заклікаў да змагання, узвышэнне былых і новых герояў, сцвярджэнне нацыянальнай годнасці і своеасаблівага культу беднай гордасці ў простым народзе - усё гэта аказалася надзвычай блізкім і сугучным рамантычным настроям харвата Станка Врза і Славена Францэ Прэшарна, балгараў Петка Славейкава і Любена Каравелава, славакаў і чэхаў Яна Колара, Францішка Чэлакоўскага, Карэла Маха, Людавіта Штура, Янака Краля і інш.

Так, Я.Купала падхопліваў і развіваў у сваёй творчасці шматлікія ідэі, тэмы і нават пафас славутай паэмы ў санетах Яна Колара «Дачка Славы», дзе магутна гучаць грамадзянскія і нацыянальна-вызваленчыя матывы, пратэст супраць нацыянальнага ўціску і здзеку прыгня-

[1] Купала Янка. Шляхам жыцця. Пецярбург, 1913, с. 13

тальнікаў, якім стала ненавісная «дзівосна-пявучая мова славян»[1]. У Колара — гэта «Теўтонія, Славы суседка», у Купалы — свае «браты» — панове польскія і рускія шавіністы, ворагі «беларушчыны»,— якім адрасуе словы ганьбы і гнеўнага пратэсту беларускі паэт:

Чаго вам хочацца, панове?
Які вас выклікаў прымус
Забіць трывогу аб той мове.
Якой азваўся беларус?
Чаму вам дзіка яго мова?
Паверце, вашай ён не ўкраў.
Сваё ён толькі ўспомніў слова,
З якім радзіўся, падрастаў. [I4,0 41490]

«О мой каханы край: слава і поруч ганьба!» — пісаў у сваёй паэме Ян Колар. Якраз на стыку гэтых двух матываў намацваў сваю сцежку да сэрца беларуса і Янка Купала, каб атрэсці яго з векавога сну, вывесці з стану абыякавасці і пасіўнасці, узрываючыся то пранікнёнымі заклікамі да барацьбы («Там») і велічнымі панегірыкамі ў гонар Маладой Беларусі («Маладая Беларусь»), то паніжаючы свой голас да роспачнага шэпту ў вершы «Наша мінуўшчына»:

Мы не жылі, як жывуць людзі,
Гасцінцам шчасця не хадзілі,
Не знали ўцехі нашы грудзі.
Вянкоў мы славы не насілі.

Мы ў паніжэнні, у вечным трудзе,
З днём кожным слабшыя па сіле,
Бясцэльна па калючай грудзе
Блудзілі, горасна блудзілі.

Быллём асуджан быў валяцца
Сын свайго краю, родных межаў;
Калі ж хто ўздумаў прачыхацца.
Курган прыбавіў толькі свежы. [II,0 246].

Чэшскія і славацкія паэты-рамантыкі, і сярод іх, безумоўна, Карэл Маха,аднымі з першых адкрылі ў сваёй творчасці тэму нацыянальнага бясхацця, стан гераічнай роспачы «патрыёта, які ступае па роднай і ў той жа час не сваёй зямлі, чуе чужую мову»[2] (верш

---

[1] Зарубежная литература: XIX в. Романтизм. Критический реализм. Хрестоматия. М., 1979, с.26
[2] Кузнецова Р.Р. История чешской литературы. М., 1987, с

«Каралевіч»), ці бачыць руіны старога замка, якія нагадваюць яму разбураную Айчыну «Дарога з Чэхіі»).

Гэтыя ж тэмы, настроі, матывы складаюць і адзін з вядучых кірункаў рамантызму Купалы, як аб тым можна меркаваць па драматычнай паэме «Сон на кургане», драме «Раскіданае гняздо».

У лірычных жа творах паэта паняволеная Айчына паўстае то ў вобразе асуджанай несправядлівым судом дзяўчыны-князёўны, якой «з плеч зрывалі ўборы злацістыя,//Разрывалі карону-вянок», а затым «вочы вырвалі ёй, сонцу роўныя» («Суды»), то ў вобразе выгнанай уласнымі дзецьмі маці («Ужо днее»). Паэт шле папрокі Богу за тое, што даўшы ўсім народам царствы і пасады, ён «нашу Бацькаўшчыну на'т прыстання//Пазбавіў, выгнаў чэзнуць сярод крат», жаліцца яму, што «мы дома - як не дома, правам родным//Сваім не смеема пажыць хоць раз». [III, 131].

У вершы ж «Свайму народу» рамантычная роспач паэта, выкліканая заняпадам Бацькаўшчыны, набывае асабліва трагічныя адценні на фоне былой славы і велічы народа:

Ты жыў, ты панаваў у краі родным.
Сцярог ад чужака й законы ўкладаў;
Звон вечавы сход склікаваў народны,
І сход аб шчасці Бацькаўшчыны дбаў.

Сягоння ўсё спіць і зрастае зеллем,
Сцярэч свой край няма ні сцен, ні рук;
Званы вячовы змоўклі, анямелі,
У ярме сагнулі людзі плечы ў крук.

Упаў народ. Змарнеў народ, забыўся,
Як Бацькаўшчыну, як яго завуць;
Як падарожны без пуцця, знябыўся,
Як сірата, якой нідзе заснуць... [IV,12]

Як справядліва зазначае Б. Ф. Стахееў, менавіта ў гэтую пару, у пару нацыянальнага адраджэння, Асветніцтва і рамантызму, цікавасць славянскіх літаратур да гістарычнага мінулага выяўлялася, магчыма, больш пільна і абвострана, чым у іншых літаратурах, найперш таму, што «адыгрывала важную ролю ў захаванні і замацаванні нацыянальнай самасвядомасці, а гэтая акалічнасць была надзвычай важнай у эпоху вырашэння грандыёзных па значэнні задач, барацьбы за

ліквідацыю феадальных парадкаў, духоўную самастойнасць, дзяржаўную незалежнасць, цэласнасць нацыі»[1]

Асабліва выразна гэтая заканамернасць у славянскіх літаратурах адраджэнцкага профілю, дзе імкненне да пошуку новай, пазітыўнай канцэпцыі асобы і народа, новых формаў нацыянальнага жыцця, заснаваных на гістарычным і духоўна-культурным падмурку мінулага, адраджэнні забытых і страчаных, альбо нават міфічных традыцый, замацавалася ў якасці вызначальнай рысы эс- чтэтыкі рамантызму); эстэтычнай нормы.

У чэхаў і славакаў гэта быў зварот да эпохі гусіцкіх войнаў і паўстанняў, вобразаў славутых народных герояў, рэфарматараў і асветнікаў Яна Гуса і Іераніма Пражскага, да запаветнай мудрасці Далімілавай хронікі. Не задавальняючыся гэтым, Вацлаў Ганка і Ёзэф Лінда стварылі містыфікаваны пад старажытныя летапісы «Краледворскі рукапіс», які адыграў важную ролю ў абуджэнні нацыянальнай самасвядомасці чэхаў і славакаў, іх барацьбе супраць нямецкага засілля.

Польскі рамантызм адрэагаваў на гэту патрэбу не толькі «Гістарычнымі песнямі» Ю. Нямцэвіча, паэмамі А.Міцкевіча «Кан- рад Валенрод» і «Гражына», зваротам да легенды пра Леха і яго братоў, пра Крака, Ванду і Попеля, якая, як вядома, шмат у чым вызначыла дух паэм Ю.Славінскага «Кароль-Дух» і «Ліля Венеда», а таксама драматычных накідаў Ц. Норвіда[2], але, як адзначае польская даследчыца М. Яніон, выпрацоўка^ ідэі «дзядаў» і непарыўнага «ланцуга быцця», якія сталі адной з падвалін філасофіі і эстэтыкі польскага рамантычнага месіянізму, у прыватнасці, «Дзя- даў» А.Міцкевіча і «Караля-Духа» Ю.Славацкага[3].

Канцэптуальна-філасофскім быў зварот да спадчыны мінулага і Янкі Купалы, паэзія якога, развіваючыся па тыпу «краёвага» польскага рамантызму, адчула на сабе даволі моцны ўплыў А.Міцкевіча і Ю.Славацкага. Асабліва ў тым, што датычыцца прарочай, ахвярніцкай місіі паэта ў вызваленчым руху, а таксама пошуку ім цэласнай філасофскай канцэпцыі нацыянальнага адраджэння, з'арыентаванай на светапоглядныя і гісторыка-быційныя пачаткі ўласнага народа.

---

[1] Стахеев Б.Ф. Актуализация ценностей национального прошлого в славянских литературах XIX — XX вв.// Славянские литературы в процессе становления и развития. От древности до середины XIX века. М., 1987. С. 313-314.
[2] Стахеев Б.Ф. Актуализация ценностей национального прошлого в славянских литературах XIX - XX вв. С.313-314.
[3] Янион Мария. Польский романтизм в европейском романтизме//Польский романтизм и восточнославянские литературы. М., 1973. С.57-60.

Чатыры вызначальныя для ўсёй купалаўскай паэзіі вобразы: Мужыка, Паэта-Будзіцеля, Воіна і Маладой Беларусі сімвалізуюць ягоную канцэпцыю адраджэння радзімы.

Узіраючыся ў легендарнае мінулае, паэт прыходзіў да высновы, што наш спрадвечна земляробчы народ некалі быў слаўны і гераічны, але ў бітвах з дужэйшымі ворагамі заняпаў, страціў сваю былую моц і сілу, і цяпер, каб адрадзіцца нанова, здабыць славу і забраную чужынцамі радзіму, яму патрэбна выявіць гераічныя рысы свайго характару, стаць воінам і змагаром. Але, каб дасягнуць усяго гэтага, патрэбна, сцвярджае паэт-прарок, каб «народ маю песню запеў// І пазнаў, аб чым песня пяе!" [I, 23].

Паводле Купалы, калі дзейснай, матэрыяльнай сілай адраджэння з'яўляецца мужык, у шырокім сэнсе, народ, дык носьбітам яго духоўнай сілы, крыніцай і пачаткам адраджэнцкіх ідэй, прарочага «духу-яснацвету» з'яўляецца сам паэт, свабодны дух якога «далей, к высотам, шлях свой праложа;//Далей, дзе йшчэ беларуская думка// Зоркай сягнуці часу не мела" [III, 57]

У разуменні прарочай, вяшчункай місіі паэта, Купала тут найбольш блізкі да А. Міцкевіча, які лічыў паэта не толькі змясцілішчам нацыянальнага духу, але і яго прарочым голасам, носьбітам выпакутаванай і ўнутрана асветленай адраджэнчай ідэі. Праўда, калі ў А. Міцкевіча гэтая ідэя наканаваная яшчэ і Божым Промыслам, дык Купалаў пясняр мусіць «здабыць» «з душы ўсе праўды,//Сваіх дум, сэрца запытаць» і нават «прагледзець» «нябесныя ўсе ходы,//Каб аж задумаўся сам бог!» [II, 93]. Якраз у гэтым сэнсе, як прарок нацыянальнага адраджэння, нястомны шукальнік для свайго народа шчасця і долі, Купала мог сказаць пра сябе, як і Хрыстос:

Я — шлях, якому век няма спакою
Ні ў чорны дзень, ні ў месячную ноч…[III, 248]

Нездарма, паэт у Купалы - гэта не толькі прарок, але яшчэ і асветнік, настаўнік, своеасаблівы «пасол святла», якому наканавана:

Самое сонца ўзяць у рукі
І, як с паходняй, з ім ісці,
Святлом ніштожыць нашы мукі,
Увесь плач роднае зямлі.

Ўзнімаць патоптаныя душы,
Людскім названнем акрыляць,
К жыццю падняць з магільнай сушы
Ўсіх, што толькі яшчэ спяць. [III, 86]

Аднак найбольш здіўляе Купала рэдкім для прадстаўніка літаратуры новага часу гарманічным спалучэннем у паэтычнай натуры свайго лірычнага героя рысаў паэта і воіна, змагара, што рабіла яго непасрэдным удзельнікам і важаком адраджэнцкага руху, а ў аспекце глыбінных нацыянальных традыцый як бы напрамую збліжала яго з традыцыяй «Слова», з вобразам дружыннага песняра-воіна, падобнага на вешчуна Баяна ці самога аўтара старажытнай песні, што кліча на бітву, аплаквае загінуўшых у змаганні, заклікае да помсты, паказвае шлях да сонца і славы:

Пойдзем, сушачы вечных крыві й слёз разводдзе,
К лепшай долі з вялікай надзеяй,
Пойдзем, пойдзем туды, адкуль сонца ўзыходзе
Адкуль вецер прыветлівы вее.

Пойдзем, кінуўшы скаргі, а дружна і смела,
Вайну ворагам выдадзім дужым,—
Пайдзем, пойдзем усе на вялікае дзела,
Досыць гаіць у сне марным, ланцужным. [І, 79]

Народжанае часам аптымістычнае адчуванне гістарычнай і духоўнай паўнацэннасці беларуса патрабавала ад паэта ўжо на раннім этапе творчасці выпрацоўкі такой праграмы развіцця духоўных сіл народа, канцэптуальнага вызначэння такіх рысаў і якасцяў нацыянальнага характару і духу, якія б маглі гарантаваць нацыянальную годнасць народа, яго незалежны дзяржаўны статус, сацыяльны і культурны прагрэс.

Ажыццяўленне гэтай задачы Купала зусім слушна звязваў з адраджэннем у народзе гераічнага духу, стварэннем вобраза рыцара, «ваякі... за долю, волю і народ».

У гэтай ролі ў Купалы выступае галоўным чынам селянін-земляроб, вымушаны ў сілу розных абставін брацца за сякеру, касу альбо цэп, каб абараніць сябе і здабыткі сваёй працы ад прыгнятальнікаў, запатрабаваць для сябе хлеба, праўды, «за крыўду плату адшукаць» [І, 72]

Гэта і «хлопцы-касцы», якіх паэт заклікае дабываць «долю сілай сабе», пастаяць «за праўду сваю», і селянін-касінер з «касой вострай сваёй» [І, 311], бо «час... косы кляпаць», «час... сілу сваю паказаць» [ІІ, 14].

Праўда, надзелены агромністай волатнай сілай герой, які ўзмахам сякеры ператварае пушчу ў поле, а «захоча — і свет пераверне» [ІІ, 96], вельмі часта праяўляе інертнасць і нерашучасць, а таму паэт вымушаны заклікаць яго да барацьбы, вучыць абараняць свае інтарэсы:

Толькі ты мусіш, брат,
Уставаць, памагаць

І за долю сваю
Ваяваць, ваяваць!

Калі стрэльбу ў цябе
Адабралі тваю,
Ты з застрэшку вазьмі
Касу вострую сваю!

І ідзі, і крычы
Прагавітым людзям
Няхай хлеба даюць
Табе, жонцы, дзяцям! [І, 83]

Паэт знаходзіць, такім чынам, для свайго героя надзвычай каларытны вобраз «рацара працы цяжкой», спалучаючы ў ім ролі працаўніка-земляроба і народнага абаронцы, воіна, што супрацьстаіць усялякім «зладзеям пчольных прац», ворагам Маладой Беларусі. Адпаведна з гэтым і яго рыцарскую сілу ўвасабляюць не традыцыйны меч, кап'ё альбо багатырская булава, але звыклыя прылады штодзённай сялянскай працы — «каса і сякера, і цэп малацьбіты» [IV, 66 ], якія выступаюць сімваламі абароны працы і народнай долі.

Яго рыцарскі статус замацаваны таксама ў адпаведных, запазычаных з арсенала літаратуры сярэдневечнай пары ўвасаблення», як «пан», «магнат», «валадар», «князь», «ваяк» альбо ў разгорнутых прызнаннях: «Я мужык-беларус — пан сахі і касы», «Ты сошка худая, я пан твой — араты» і г.д.

Канцэпцыя рыцарскага вобраза селяніна вызначалася аднак не толькі сацыяльным момантам, але і падмацоўвалася гістарычнымі ўяўленнямі аб сваім народзе як народзе рыцарскім, змагарным, які толькі забыўся на сваю даўнюю славу.

Менавіта гэтымі абставінамі абумоўлена ўвядзенне Купалам у паэтычны ўжытак услед за вобразамі мужыка-касінера вобразаў «ваякаў», прыгадванне ім казака, «што кароны пікой//І пасады ўстрасаў, //А законы крывёй самаўладцам пісаў» [ІІІ, 64], рыцара-князя, «што бітвамі славу прыдбаў» [ІІІ, 244 ], у вершы «Паўстань» ён жа - «ваяк», «волат» на «вогненным кані», што ўзыходзяць, відаць, да старажытнага беларускага герба Пагоня.

У цэлым жа, перакананасць Купалы, што «нашы маткі нам ваяк новых выгадаюць з часам» [ІІІ, 222], адлюстравала не толькі рамантычны ідэал паэта, але і ягоную веру ў сілу і патэнцыяльныя магчымасці беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, які пасля стварэння паэтам аднаіменных вершаў 1909-1911 і 1912 гг. «Маладая

Беларусь», як бы атрымоўвае ў гэтым вобразным паняцці свой закончаны, цэласны сэнс і акрэсленую перспектыву.

У гісторыі нацыянальнай літаратуры і мастацтва, дарэчы, цяжка адшукаць другі які-небудзь мастацкі сімвал, які б так дасканала і гістарычна дакладна ўвасабляў паняцце радзімы, велічнага героіка-трагедыйнага шляху беларусаў да спазнання сваёй сутнасці, вызнання незалежнасці, вольнасці і дэмакратызму як неадменных, фундаментальных асноў годнага нацыянальнага жыцця.

Калі ў цэлым Беларусь для Купалы, на думку Ул. Калесніка, «не толькі геаграфічнае, гістарычнае ці палітычнае паняцце, назва краіны і дзяржавы, але паняцце філасофскае, гуманістычнае — скарбонка духоўных каштоўнасцей, створаных народам за вякі»[1], дык створаны паэтам вобраз Маладой Беларусі ёсць найперш сімвал, канцэнтраванае ўвасабленне сілы і аптымізму беларускага нацыянальнага адраджэнцкага руху, што ўключае ў сябе паняцці гістарычнага лёсу, шляху і духоўнага ідэалу беларускай нацыі, выяўленыя як фактар яе гістарычнага духоўнага самаразвіцця.

Усё гэта выводзіць даследаванне генезісу купалаўскага вобраза Маладой Беларусі далёка за межы фальклорных запазычанняў ці традыцыйных для нашага літаратуразнаўства ўплываў еўрапейскай рамантычнай традыцыі, якая, як вядома, стварыла на хвалі нацыянальна-вызваленчых рухаў цэлую галерэю вобразаў адроджаных нацый і кантынентаў. Прынамсі, дазваляе ўбачыць нешта больш істотнае, глыбіннае, а менавіта: змястоўную сувязь створанага вобраза з пошукамі паэтам цэласнай гістарычнай канцэпцыі нацыянальна-духоўнага быцця.

Нездарма, ужо на самым пачатку творчасці разам з пафасным сцверджаннем духоўнай паўнацэннасці, чалавечай і сацыяльнай годнасці мужыка-беларуса Купалаў вобраз абуджанай Беларусі гэтак жа чуйна ўбіраў у сваё шматгалоссе паэтавы гуканні згубленай у стагоддзях радзімы, яго трагічна-адчайныя, звернутыя да народа і самога сябе пытанні: «Дзе ж мой дом, дзе мой люд? Дзе айчызна мая?».

Звяртаючыся ў ранніх вершах «Над сваёй Айчызнай», «Сон» да гістарычнай даўніны народа, захаванай у легендах і паданнях роднага краю, старажытных курганах-валатоўках паэт спрабаваў шляхам рамантычнай візіі мінулага раскрыць амаль містычную сувязь паміж яскравымі сведчаннямі колішняй ваярскай славы і таямніцай летаргічнага сну цэлага народа. Аднак за рамантычным каларытам мінулага ўгадваліся не толькі веліч і драматызм мінулай гісторы

[1] Купала Янка. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1986. С 119.

народа, але і яе непрачытанасць, абмежаванае кола ўяўленняў. Узровень рэальных ведаў аб мінулым свайго краю не дазваляў паэту на той момант ні шырока абаперціся на гісторыю як на рэальны прэцэдэнт, ні тым больш стварыць на яе аснове цэласны, канцэптуальна завершаны вобраз радзімы, што адраджаецца да новага жыцця.

У якасці зыходнай мадэлі, здольнай выканаць ролю своеасаблівага каталізатара гістарычных уяўленняў у Купалы на гэтым этапе творчасці выступае адзін з вядучых матываў нацыянальнай міфалогіі - сну (смерці) і абуджэння (уваскрэсення) Беларусі[1]. Адначасна, як бы кампенсуючы відавочную гістарычную аднабаковасць, паэт стварае мастацкі інварыянт нацыянальна-патрыятычнага міфа, грунтуючы яго на альтэрнатыўных, супрацьлеглых па сэнсу ўяўленнях аб былой славе і цяперашнім заняпадзе (сне) роднага краю:

Дзе той час, у яком
Тут кіпела жыццё?
Свой народ быў кругом
І любіў сваё ўсё!

Знікла ўсё, як імгла,
Няма славы таей;
Злая доля змагла
І мой край, і людзей!

Адны ў шар курганы —
Сведкі бітваў стаяць;
Косці к ім груганы
Прылятаюць збіраць.

Прашмыгаюць вужы,
Канюх моліцца «піць«,
Воўк прабег па мяжы,
Далей спіць усё, спіць! [I, 67-68]

Пры гэтым выкарыстанне паэтам у якасці мадэльнай асновы нацыянальна-патрыятычнай легенды матываў сну і абуджэння, былой славы і заняпаду ўжо само па сабе, аб'ектыўна ставіла мастацкую распрацоўку вобраза Беларусі ў відавочны кантэкст, а ў некаторых выпадках і ў прамую залежнасць ад традыцый такіх твораў старажытнай літаратуры, як «Слова аб палку Ігаравым», «Песня пра зубра»

---

[1] Аб гэтым гл.: Калеснік У. Ветразі Адысея. Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі. Мн„ 1977. С.212-213; Яго ж: Тварэнне легенды: Літаратурныя партрэты і нарысы. Мн., 1987. С.285-292.

М. Гусоўскага, «Трэнас» М. Сматрыцкага і інш. Трагедыйны сюжэт нацыянальнай гісторыі з яе трыма адвеку змяняючымі адзін аднаго актамі славы, смерці і адраджэння як бы напрамую падключаў Янку Купалу да традыцый старабеларускай літаратуры, абумоўліваючы гнуткую, дыялектычную ўзаемасувязь і ўзаемазалежнасць паміж унутранай трансфармацыяй міфа аб смерці і ўваскрэсенні Беларусі ў гістарычную канцэпцыю адраджэння і эвалюцыяй паэта ад «абагуленасумарнага» (І.Навуменка) вобраза мужыка («Мужык») да вобраза абуджанага рэвалюцыяй народа («А хто там ідзе?») і, далей, да вобрага маці-Беларусі, што адрадзілася да новага жыцця («Ужо днее»).

Якраз у апошнім, палемічна адштурхоўваючыся ад створанага М.Сматрыцкім у «Трэнасе» вобраза асірацелай, пакінутай сынамі і дочкамі, пастырамі і апякунамі маці-святой праваслаўнай царквы, паэту ўдалося ўпершыню стварыць надзвычай змястоўны вобраз уваскрэслай у сваім народзе маці-Беларусі:

Здушылі мне голас на родных на нівах;
Крыж цяжкі ўпадку з народам нясла,
І думаў чужынец, што ўжо я няжыва.
Не верце! Жыву, як ад векаў жыла!

Я ўсё, колькі сілы, змагала, ўставала!
Я жыва! Народ мой са мною, пры мне!
Я ўсё перанесла і выйшла я з хвалай,
Я сільна, я вечна ў сваёй старане! [ІІ, 37]

Пры гэтым контуры міфалагічнай і гістарычнай трактоўкі вобраза Беларусі тут па сутнасці ўпершыню супалі, накладіся адзін на другі з вялікай ступенню дакладнасці, што дазваляе звязваць яго генезіс з актам нацыянальна-духоўнай і гісторыка-літаратурнай самасвядомасці. Невыпадкова, што змест вобраза (ізноў-такі, як у «Трэнасе») раскрываецца цераз унутраны маналог-споведзь Беларусі аб сваім мінулым і цяперашнім, уключае разгорнутую рэмінісцэнцыю перыяду заняпаду, калі «хрэст брала народнай слязою..., з людской неразлучны ўзяла шлюб бядою». І калі ў раннім вершы «Над сваёй Айчызнай» паэт задаваў сабе пытанне «Дзе мой дом, дзе мой люд? Дзе Айчызна мая?», дык тут, у сваёй споведзі перад народам, Беларусь дае ўжо пераканаўчы, упэўнены адказ: Хоць, пэўна, вы знаеце, хто я такая, Якім правам тут перад вамі стаю. Дзе дом мой, народ мой,— з якога я краю,— Паслухайце смутную повесць маю. [ІІ, 36] Усвядомлены гістарызм мастацкага мыслення, прымат гісторыка-літаратурнага факта над міфалагічнай трактоўкай выявіліся і ў дакладна зарыентаваным на трыдыцыю «Трэнаса» ўвасабленні паэтам старой Беларусі

пары яе гістарычнага заняпаду і палітычнай смерці ў вобразе маці-сіраты, якую выгналі з уласнага дому яе дзеці — рэнегаты і адшчапенцы, для якіх яна стала абрыдлай і ненавіснай:

З-пад гэтай хаціны па выдмах нязнаных
Ганялі, чаго не згубіла, шукаць.
Глядзіце: во рукі і ногі ў ранах,
А раны на сэрцы — каму іх паняць?!

Па грудах, каменнях хадзіла я босай,
Крывёю чырвонай дабрыла зямлю;
На шаты мае паглядалі з'ускоса
І песню з насмешкай віталі маю!

З балотам мяшалі, пагардай плявалі
Ўсе тыя, што выраслі нават са мной!
З маім людам згінуць навек мне казалі,
І страшна было мне так жыць сіратой! [II, 36-37]

Ужо простае назіранне дазваляе ўбачыць у купалаўскім вершы надзвычай дакладна акрэслены гістарычны прататып, што ўзыходзіць да вобраза маці-святой праваслаўнай царквы з «Трэнаса» М.Сматрыцкага. Пры гэтым Я.Купала падхопліваў і развіваў не толькі сюжэтна-сэнсавую лінію вобраза, але авалодваў і яго стылявым, інтанацыйна-экспрэсіўным ключом. Звязныя ўрыўкі з «Трэнаса» даюць аб гэтым выразнае ўяўленне: «Рукі мае ў аковах, ярмо на шыі, путы на нагах... Дзень у болю і ранах, а ноч у стогнах і ўздыханнях праходзіць... Дзяцей нарадзіла і выхавала, а яны адракліся ад мяне, сталі смяяцца з мяне і абражаць мяне, бо знялі маё цудоўнае адзенне і голую выгналі з уласнага дому... Замест каштоўных рыз маіх надзелі на мяне струхлелыя анучы і зрабілі мяне прадметам насмешак... Слухайце жалобную аповесць маю ўсе народы, слухайце ўсе, хто жыве на зямлі!... Старцы мае здурнелі, юнакі здзічэлі, дочкі пайшлі на распусту, і ўсе аднадушна, Бога і праўду забыўшы, замахнуліся на маю душу»[1].

Вядома ж, сам па сабе гэты факт яшчэ не даказвае літаратурна-кніжнага паходжання купалаўскага вобраза, але ён пераканаўча сведчыць, што менавіта традыцыя «Трэнаса» паслужыла для яго мадэллю. З'явілася гэта вынікам непасрэднага знаёмства паэта з «Трэнасам», ці ўплыў палемічнага твора Сматрыцкага выявіўся ў апасродкаваных, сінтэзных формах — адказ на гэтыя пытанні, безумоўна, трэба шукаць у абставінах віленскага перыяду жыцця і творчасці Купалы.

---

[1] [М.Смотрицкий] Teofiła Ortologa *Θρηνοζ* to jest lament... Wilno, 1610. L.l, другога ліку — 22. (пераклад наш — Г.П.).

Наперад заўважым, што ні для самога паэта, ні для многіх яго сучаснікаў і папярэднікаў «Трэнас» не быў, як сёння можа здацца, загадкай, таямніцай за сямю замкамі, унікумам, што мае ўсяго толькі бібліяграфічную вартасць. І не толькі таму, што яго, скажам, можна было свабодна запатрабаваць у Імператарскай публічнай і Літоўскай семінарскай бібліятэках у Пецярбурзе[1], альбо адшукаць у віленскіх кнігасховах і прыватных зборах. Як сведчыць у сваёй працы «Мелетий Смотрицкий» А.С.Пракошына, яго чыталі і перапісвалі яшчэ ў XVIII стагоддзі. У Віленскім грамадскім кнігасхове меўся нават рукапісны экземпляр «Трэнаса», які быў перапісаны ў 1743 годзе[2]. У XIX стагоддзі цікавасць да «Трэнаса» і асобы самога М.Сматрыцкага ўзрастае ў сувязі з абрусіцельнай палітыкай рускіх самадзержцаў у дачыненні да нованабытых пасля раздзелаў Рэчы Паспалітай тэрыторый, памкненнямі абодвух варагуючых бакоў ідэалагічна абгрунтаваць свае правы на «забраны край». Творчасць пісьменніка-палеміста становіцца аб'ектам пільнай увагі як з боку рускай, так і польскай гістарыяграфіі. Яго ўважліва вывучаюць і даследуюць М.В.Каяловіч, М. М. Бантыш-Каменскі, М.П.Дашкевіч, гісторык польскай літаратуры М. Вішнеўскі і інш. Пры гэтым у большасці прац рускіх, затым украінскіх і беларускіх вучоных назіраецца ўстойлівая тэндэнцыя ілюстраваць перыяд гістарычнага заняпаду «русского народа» ў былой Рэчы Паспалітай на рубяжы XVII стагоддзя спасылкамі на «Трэнас», цытаваннем найбольш яскравых і ўражлівых мясцін плачу маці-святой праваслаўнай царквы па загінуўшых у «латинстве» і «полонизме», здрадзіўшых радзіме і нацыянальнай справе княжацкіх дамах, радавітых магнатах і шляхце, некалі слаўных «мощью и мужеством народа русского»[3].

Больш таго, ва ўмовах росту нацыянальна-вызваленчых памкненняў традыцыі «Трэнаса» становяцца як бы жывой, неад'емнай часткай нацыянальнай самасвядомасці і гістарычнага лёсу беларускага народа. Невыпадкова, ужо ў другой чвэрці XIX стагоддзя яны замацоўваюцца і атрымліваюць сваё далейшае развіццё ў «Шляхцічу Завальні» Яна Баршчэўскага і «Плаче Белорусской земли» Е.Р.Раманава.

І калі ў Я.Баршчэўскага няшчасная Плачка, яна ж затым — сялянская сірата, што цудадзейна з'яўляецца ў ваколіцах Полацка і іншых месцах Беларусі, аплакваючы сваіх загінуўшых і занядбаных дзяцей, сімвалізуе абяздоленую сялянскую Беларусь на руінах сваёй

---

[1] Коялович М.О. Литовская церковная уния. С-Пб, 1859. Т.1. С.185.
[2] Прокошина Е.С. Мелетий Смотрицкий. Мн., 1966. С.160.
[3] Коялович М.О. Чтения по истории Западной России. 4-е изд. С-Пб., 1884. С.211-212; Белоруссия и Литва. Исторические судьбы северо-западного края. Изд.П.Н.Батюшкова. С-Пб., 1890. С.210-211; Ефименко А.Я. История украинского народа. Вып.1. С-Пб., 1906. С.177; Власт. Кароткая гісторыя Беларусі. Вільня, 1910. С.59.

некалі гераічнай і слаўнай гісторыі, дык Е.Р.Раманаў, адлюстроўваючы новую гістарычную сітуацыю, не толькі ўводзіць агульнанацыянальны па характару вобраз маці-Белай Русі, але ў заключнай, фінальнай частцы твора паказвае яе ўваскрэслай да новага жыцця, караючай адшчапенцаў і здраднікаў[1].

Тым самым і Я.Баршчэўскі, і Е.Р.Раманаў не толькі ўшчыльную набліжалі буйнейшага нацыянальнага паэта да «Трэнаса», але і папярэджвалі некаторыя надзвычай перспектыўныя і плённыя шляхі развіцця вобраза Беларусі ў Янкі Купалы.

У гэтых умовах, каб завяршыць вобраз, ператварыць яго у цэласны акт нацыянальна-духоўнага самапазнання, для Янкі Купалы, паэта з абсалютным прыродным адчуваннем эстэтычнага нацыянальнага кода, дастаткова было толькі аднаго імпульса, але імпульса вызначальнага - гістарычнага. Таго самага, каторы непасрэдна выводзіў паэта і да самога «Трэнаса» і да гістарычнай эпохі, адлюстраванай у ім.

Такія умовы стваралі перадусім сама атмасфера і абставіны грамадскага жыцця ў перыяд рэакцыі пасля паражэння рэвалюцыі 1905-1907 гг. Як вядома, верш «Ужо днее» быў створаны ў 1908 годзе, неўзабаве пасля пераезду паэта ў Вільню, калі рэзка абвастрылася так званае «польскае пытанне», якое пацягнула за сабою новую хвалю шавіністычных наскокаў на нацыянальны рух беларусаў з боку «истинно-русских» і «истинно-польских людей», што выклікала рэальную пагрозу раз'яднання і канфрантацыі народа на грунце рэлігійнага веравызнання і канфесійнай прыналежнасці.

Так, напрыклад, «абрусіцель з беларусаў» пан Саланевіч, як яго атэставала “Наша ніва”, заявіў на старонках «Виленского Вестника», што пара выкінуць з галавы «дурную думку, што беларусы - асобная нацыя, маюць сваю мову беларускую, культуру» і, прызнаючы іх за народ рускі, весці «на пачатках рускай дзяржаўнасці»[2].

У сваю чэргу, «Dziennik Wileński» праз свайго аўтара А.Багдановіча даводзіў, што «беларушчыну гвалтам прыдумалі, як была рэвалюцыя, і зрабілі нешта як бы газету, каб "цкаваць беларуса супраць паноў і палякаў"»; самі ж беларусы нібыта зусім «не хочуць кніжак у сваёй роднай мове..., бо ўсе беларусы былі даўней уніатамі пасля сталі праваслаўнымі, а цяпер пераходзяць на каталікоў»[3].

У крывадушным лямансе, што паднялі абрусіцельныя і польскія шавіністычныя газеты тыпу «Окраин России», «Крестьянина», «Виленского Вестника», «Kurjera Litewskego», «Dziennika Wilenskego», «Gońca

[1] Романов Е.Р. Плач Белорусской земли. Витебск, 1894. С.10-11.
[2] Цыт. па: Наша ніва. 1908. 11 верасня.
[3] Цыт. па: Наша ніва. 1908. 25 красавіка.

Wiierfskego», беларускі народны паэт ясна вырозніваў здушаны «на родных на нівах» голас сваёй змучанай, спакутаванай, раз'яднанай з уласным народам радзімы.

У гэтых умовах свядомая арыентацыя паэта ў вершы «Ўжо днее» на традыцыю «Трэнаса» ў спалучэнні з дакладна асэнсаванай перспектывай адраджэння Беларусі, што знайшла, нарэшце, свой «гасцінец-дарогу» («Ужо днее! ўжо днее! — к сваім мне пара!») з'явілася свайго роду гістарычным адказам маладой нацыі ўсім тым, хто як і раней спрабаваў гандляваць душой беларуса. Тым больш, што ва ўмовах канфрантацыі і палемікі, што разгарнулася ў друку, доступ да «Трэнаса», як і да другіх гістарычных крыніц і аргументаў істотна аблягчаўся дзякуючы шырокай публікацыі ў віленскім друку разнастайных матэрыялаў, прысвечаных 300-годдзю з дня смерці аднаго з герояў «Трэнаса», апекуна і абаронцы праваслаўя ў былой Рэчы Паспалітай і даўняга мецэната бацькі і сына Сматрыцкіх — князя Канстанціна Астрожскага. Па-свойму дадавала цікавасці да гэтай тэмы і набліжэнне 70-годдзя «ўз'яднання» ўніятаў з праваслаўнай царквою. Матэрыялы аб гэтых падзеях друкаваліся ў «Виленском Вестнике», «Виленском календаре на 1908 год» і інш., не кажучы ўжо аб клерыкальных выданнях тыпу «Литовских епархиальных ведомостей» альбо «Вестника Виленского православного братства». У апошнім, дарэчы, быў змешчаны артыкул пад назваю «Аб заслугах князя Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага», аўтар якога А.В.Ярушэвіч цытаваў «Трэнас», ўзнаўляючы ўжо вядомы нам урывак плачу маці-святой праваслаўнай царквы па здрадзіўшых праваслаўю і нацыянальнай справе княжацкіх родах, шляхце і магнатах[1]. Адразу за гэтым у лютым 1908 года артыкул А.В.Ярушэвіча з адпаведным каментарам быў перадрукаваны ў пятым і шостым нумарах «Крестьянина». У гэты ж час, як сведчыць гандлёвая рэклама ў «Виленском календаре»[2], у магазінах Вільні можна было свабодна набыць такія творы Е. Р. Раманава, як «Плач Белорусской земли» і «Под польским игом», якія непасрэдна закраналі тэму «Трэнаса» і каталіцкай агрэсіі на беларускіх землях пасля царкоўнай уніі 1596 года.

Такім чынам, стварэнне ў вершы «Ужо днее» вобраза ўваскрэслай у сваім народзе маці-Беларусі з'явілася паваротным момантам на шляху Янкі Купалы ад міфалагічнай трактоўкі гісторыі да ўсвядомленага гістарызму мастацкага мыслення, што выразна выявіўся ў ягонай творчасці 1908-1910 гг. Для паэта гэта азначала найперш

---

[1] Вестник Виленского православного братства.— 1908. № 3.— С.51-55.
[2] Виленский календарь на 1908 г. Вильно, 1907. С.193.

уваходжанне ў заключную фазу фарміравання цэласнай канцэпцыі нацыянальна-духоўнага быцця, замацаванне на пазіцыях гістарызму, паглыблення і пашырэння гістарычных уяўленняў і ўражанняў і, адпаведна, пошуку і стварэння новых злучальных сімвалаў і вобразавыяўленчых форм нацыянальна-патрыятычнай легенды. У гэтым сэнсе зварот Янкі Купалы ў лірыцы і эпасе 1909-1912 гг. да творчай распрацоўкі ідэі Маладой Беларусі, якая атрымала паслядоўнае асэнсаванне і развіццё ў вобразах «маладой старонкі», прыгожай дзяўчыны-сялянкі, «мучаніцы-княж- ны», гістарычнай асобы Рагнеды-Гарыславы, нявесты і г.д., уяўляецца натуральнай і заканамернай з'явай на шляху рамантычных пошукаў паэтам «сваёй айчыны».

Так, абнаўленне вобразнага сімвала Беларусі ў вершы «Маладая Беларусь» 1909 года, дзе яна выступае ўжо ў аблічча маладой дзяўчыны, нібыта не выклікана нейкім прынцыповым перайначваннем спадчыннага генатыпа вобраза. Худчэй, наадварот, яго пераемнасць і сувязь з вершам «Ужо днее», намаганні, каб замацаваць і прадоўжыць традыцыі «Трэнаса», выяўлены тут, бадай, вельмі выразна і ў вобразах «хеўры чужынцаў», якія прымушаюць Беларусь «пакланяціся ім, прадаюць і купляюць//І апекай сваёй зневажаюць...», і ў патрыятычнай ідэі грамадскай згоды і адзінства народа. І ўсё ж нельга не адзначыць адной прынцыпова важнай асаблівасці: паэт пераключаецца тут на матыў славы — як дамінуючы і вызначальны прынцып, што адлюстроўвае яго новы падыход да ўвасаблення вобраза ўваскрэслай Беларусі.

Гартавана слязьмі і крывёю народа,
Разаб'юцца цяпер аба мне ўсе нягоды,
І дзе ўпадак быў мой, стане думна сын мой,
Повен волі і славы нязломнай ступой. [II, 65]

Зразумела, што цяпер, калі ідэя адраджэння Беларусі стала рэальнаю з'явай жыцця, калі легенда аб яе смерці і ўваскрэсенні атрымала гістарычнае асэнсаванне, прыярытэтнае значэнне набывае для паэта распрацоўка прынцыпова інакшага варыянта нацыянальна-адраджэнскага міфа, звязанага з матывам колішняй славы. Гэта значыць, што і ў дачыненнях да мінулага, у пошуках страчанай бацькаўшчыны вызначальнымі, канцэптуальна значнымі для паэта цяпер з'яўляюцца пазітыўныя тэндэнцыі і вобразна-сэнсавыя сімвалы, якія маглі б удзельнічаць у фарміраванні ідэала новай, адроджанай айчыны.

Можна меркаваць, што на адну з такіх пазіцый, да ідэі Мала- дой Беларусі, неўпрыкмет, спакваля падводзіў паэта ўжо «Трэнас», альбо калі быць дакладным, вобраз-успамін маці-святой праваслаўнай царквы аб пары сваёй маладосці: «Раней я была цудоўная і багатая, а

цяпер абрыдлая і бедная. Калісці была каралеваю, якую кахаў увесь свет, а цяпер пагарджаная і даведзена да смутку... Я была багацей за ўсіх аздобленая, прывабная і мілая, прыгожая, як ранішняя зорка на ўсходзе, цудоўная, як месяц, і бліскучая, як сонца»[1].

У дадзеным выпадку аднак далёка не ўсё залежала ад творчай ідэі, што падказваў палемічны твор М.Сматрыцкага: бо вобразам бліскучай нявесты, што сімвалізавала эпоху росквіту і славы праваслаўнай царквы, вычэрпваліся для Купалы на той момант не толькі рэсурсы «Трэнаса» як літаратурнага ўзора, але па сутнасці і перспектыва бачання ім гістарычнага мінулага свайго народа. Невыпадкова, што той самы вынік меў і ўплыў на верш паэта драмы С.Выспянскага «Лістападаўская ноч», а менавіта: хоць і «Трэнас», і вобраз Коры з драмы С.Выспянскага неслі ў сябе зародак творчай ідэі Маладой Беларусі-нявесты, у вершы 1909 года ён так і не ўзнік. Таму мае рацыю А.Лойка, калі адзначае, што верш 1909 года «быў як бы разведкай вобраза Маладой Беларусі - аднаго з цэнтральных у лірыцы Купалы 1911-1912, як бы прадвесцем другога вершы «Маладая Беларусь» («Вольны вецер напеў вольных песень табе»)», характарызуючы яго як «верш пераходнага, пошукавага тыпу», ў якім «яшчэ няма ўласна вобраза Маладой Беларусі, ёсць вобраз «Беларусі, маладой старонкі» з паказам яе бунтарнага духу, непахіснай упэўненасці, энергіі і аптымізму народа, самаўсведамленне якога расло ў рэвалюцыйнай барацьбе»[2].

На самой справе, пры падабенстве ідэйнага імпульса, сэнсавай і вобразна-стылявой карэляцыі, агульнасці матываў заняпаду і славы, гуслярскай песні і «забытай сіраты», вобраз Маладой Беларусі ў вершы 1911-1912 гг. — з'ява якасна вышэйшага ўзроўню. У адрозненне ад верша 1909 года, у якім Янка Купала ўпершыню ўвасобіў ідэю адраджэння ў вобразе маладой беларускай сялянкі, што «ўзышла, расцвіла непагаснай зарой», тут вобраз Маладой Беларусі — нявесты, што займае «свой пачэсны пасад між народамі», ужо нясе ў сабе цэласную праграму нацыянальнага адраджэння і дзяржаўнага будаўніцтва, сімвалізуе вольную, незалежную, самастойную, дэмакратычную Беларусь, што імкнецца будаваць свае адносіны з суседзямі на прынцыпе роўнасці. Пры ўсёй актуальнасці і палітычнай злабадзённасці свайго зместу вобраз Маладой Беларусі адначасова ўспрымаецца як вобраз, скіраваны назад, да нейкага ідэальнага, гераічнага стану радзімы - незалежнай, вольнай, дэмакратычнай, дзе верхаводзіць «гулу звон

[1] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн., 1959. С.264.
[2] Купала Я. Энцыклапедычны даведнік. С.375.

вечавы», здзяйсняецца нейкі старажытны язычніцкі абрад пасвячэння ў дзяржаўны сан. Вобраз Маладой Беларусі падкрэслена цырыманіяльны, гераль дычны. Кожная дэталь, як у старажытных «эпіграмах» на магнацкія ці княжацкія гербы, нясе ў сабе пэўную ідэю, сімвалічны падтэкст, якія патрабуюць расшыфроўкі і ўважлівага прачытвання.

Так, маладая — простая дзяўчына, сялянка, ў мінулым «забытая сірата», аднак на галаве ў яе — карона «з свойскіх кветак-пралесак». Як княжне, пяюць ёй славу гусляры, узгадваючы «мінуўшчыну даўную». Надзвычай красамоўная і заключная частка панегірыка, дзе абрад узвядзення Беларусі на пасад спалучаны з вобразамі «пасланцоўсокалаў», «сакалінай сям'і».

Высылай, рассылай на край свет пасланцоў,
Як з гнязда сакалінага сокалаў,
Хай лятуць, далятуць да байцоў-удальцоў.
Хай грымяць весткай добраю ўвокала.

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я.
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая.
Свой пачэсны пасад між народамі!... [III, 143]

Такім чынам, ёсць відочныя падставы гаварыць аб наяўнасці ў структуры купалаўскага вобраза жанрава-стылёвых элементаў, характэрных для панегірычнай паэзіі XVI-XVII стст. А. Рымшы, Я. К. Пашкевіча, М.Сматрыцкага, і, асабліва, вобразных дэталяў, адценняў і інтанацый «Слова аб паходзе Ігаравым» з яго чароўным вобразам сакалінага палявання і язычніцкіх песнапенняў старажытнага Баяна: «Тогда пущашеть десять соколовь на стадо лебедей, который дотечаше, та преди песнь пояше старому Ярославу, храброму Мстиславу, иже зареза Редедю предъ пълкы касожьскими, красному Романови Святъславличю. Боянъ же, братие, не десять соколов на стадо лебедей пущаше, нь своя вещиа пръсты на живая струны въскладаше; они же сами князем̀ъ славу рокотаху»[1].

Усё гэта дазваляе па-новаму паставіць пытанне аб гістарычным генезісе вобраза Маладой Беларусі і яго ідэйным змесце. Бо да гэтай пары даследчыкі звярталі ўвагу галоўным чынам на фальклорную аснову вобраза Беларусі, разглядаючы абрад узвядзення яе на пасад як неаспрэчны аргумент на карысць фальклорнага паходжання вобраза.

---

[1] Слово о полку Игореве: Древнерусский текст и переводы. М., 1981. С.98.

У гэтым сэнсе звяртае на сябе ўвагу той факт, што вобраз Беларусі-нявесты асэнсоўваецца Купалам зусім не ў адпаведнасці з традыцыйнай фальклорнай абрадавасцю, калі маладая плача па родным доме, бацьках, сяброўках, згубленай волі, баіцца свёкра і свекрыві. Больш таго, паэт стварае свой вобраз відочна насуперак гэтым уяўленням:

Зіхаціш і гуслярскаю песняй звініш,
Узнімаеш мінуўшчыну даўную;
Час сягонняшні ўперад ісці не пыніш,
І глядіш смела ў будучнасць тайную.

Смела ў сонцы ідзеш, як жывы агняцвет,
Сееш ласкава сны залацістыя;
Не пужае сумежны дакучны сусед,
Не пужае пуціна цярністая. [III, 142]

Адсутнічае ў паэта і адна з галоўных дзеючых асоб вясельнага абраду — маладыы альбо суджаны. Такім чынам, у Купалы Беларусь — маладая — паняцце найперш духоўнае, сімвал годнай і незалежнай айчыны, што пасягае на ўласны дзяржаўны пасад.

У нейкай ступені блізкі адпаведнік да купалаўскага вобраза мы знаходзім толькі ў «Каралі-Духу» Ю.Славацкага. Падобна там увасабляецца «каханая», «каралева», «дачка Слова», якая сімвалізуе адроджаную Польшчу, якой яна з'явіцца некалі свету:

Słońce lecące trzymała nad czołem;
A miesiąc srebrny pod nogami gniotła;
Szła nad lasami i leciała dołem,
Nad chaty, jako komeciana miotła;

Tęcze ją ciągiem oskrzydlały kołem;
W słońcu girlandy niby z kwiatów plotła
I na powietrze rzucała niedbale
Perły jaśminy i maki korale[1].

Сонца-кола трымала над чолам,
Месячык срэбны ножкай таптала,
Па-над лясамі ляцела і долам
Камецісты веер свой рассыпала;

Вясёлкі крылялі наўкол яе колам,

[1] Słowacki J. Król-Duch. Warszawa, 1916. S.28.

З променяў сонца гірлянды сплятала,
І ў прасцяг светлы кідала, бы ў хвалі,
Перлы язміну і макаў каралі[1].

Аднак і ў Ю.Славацкага «каралева», «каханая», што ўвасабляе жаночы, «нявесцін» дух, выступае ў пары з Гер-Арменчыкам — «каралём-Духам», які становіцца яе рыцарам і з гэтай пары служыць толькі ёй.

Больш глыбокія і блізкія да асноўнай ідэі купалаўскага вобраза асацыяцыі, выклікае, бадай, толькі ягоная драматычная паэма «Ліля Венеда». Яе галоўная гераіня Ліля Венеда ахвяруе сабой і сваім каханнем, дае па патрабаванню хрысціянскага місіянера Гвальберта абяцанак дзявоцтва і цноты, каб выратаваць трапіўшага ў палон да лехітаў бацьку, караля венедаў Друіда і яго чарадзейную арфу, якая з'яўляецца крыніцай сілы і моцы дзяржавы. У гэтым жа плане можна разглядаць і другі жаночы вобраз — варажбіткі Розы Венеды, у якім ідэя будучага адраджэння дзяржавы венедаў увасоблена ў абяцанку духоўнага зачацця гераіні ад попелу загінуўшых у бітве рыцараў.

Янка Купала аднак не пайшоў услед за польскімі рамантыкамі, якія, як і Ю. Славацкі, спрабавалі асэнсаваць ідэю адраджэння Польшчы праз містычны матыў беззаганнага зачацця Дзевай Марыяй Хрыста альбо непасрэдна звязвалі ідэі патрыятычнага слугавання радзіме з матывамі рыцарскага слугавання даме сэрца.

У Купалы вобраз Маладой Беларусі-нявесты атрымоўвае выключна арыгінальную і самастойную трактоўку, яскрава выяўляе свой нацыянальны характар. Прычым не толькі ў выніку рамантычнага пераасэнсавання фальклорнага па сваёй сутнасці матыва ўзвядзення нявесты на пасад з пазіцый нацыянальна-дзяржаўных памкненняў народа, але і дзякуючы гістарычнай падаплёцы вобраза Беларусі — «самой на пасадзе» — як вобраза вечнай нявесты.

Ёсць важкія падставы сцвярджаць, што такое творчае рашэнне, сама ідэя вобраза, што ўвасабляе вечны росквіт і існаванне Беларусі — дзяржаўнай, годнай, незалежнай, самастойнай, суверэннай — маглі ўзнікнуць толькі на аснове асэнсавання ўсяго духоўна-гістарычнага вопыта народа, яго гісторыі, культуры, і, найперш, традыцый пісьменнасці.

Азіраючыся менавіта на эстэтычныя здабыткі і традыцыі нашай старой літаратуры, што сягае сваімі вытокамі часоў старажытнай Русі, якраз і магчыма выказаць здагадку, што ў ім, гэтым вобразе, выразна адлюстраваліся, атрымалі своеасаблівае сімвалічнае абагульненне рысы духоўнага аблічча гордай, незалежнай Рагнеды, дачкі

[1] Пераклад А.Лойкі

полацкага князя Рагвалода, з яе вядомым, увайшоўшым ва ўсе летапісы і гістарычныя хронікі: «не хочю розути робичича, но Ярополка хочю»[1].

Таксама ёсць усе падставы думаць, што творчая задума паэта магла складвацца і пад уплывам вобраза другой выдатнай прадстаўніцы полацкай дынастыі, рэлігійнай асветніцы XII стагоддзя «светозарной памяти» Ефрасінні. Той самай, што ў адказ на прапанову маладымі акалічнымі князямі рукі і сэрца адказвала самой сабе ў думках: «Но что успѣша при нас бывшии родове наши? И женишася, и посягоша, и княжиша, но не вічноваша. И житие их мимо тече. Слава их погыбе, яко прах, и хужьши паучины»[2].

Справа тут, вядома ж, не толькі ў самых гістарычных асобах Рагнеды альбо Ефрасінні Полацкай, іх паводзінах у канкрэтных жыццёвых сітуацыях, але найперш у тым, што іх падзвіжніцкія постаці ўвасаблялі для паэта лёс народа, старажытнай Полацкай дзяржавы, гісторыю іх росквіту і заняпаду, смерці і адраджэння, славы і ганьбы.

Як і чаму, якім чынам ідэал адроджанай, вечнай Айчыны мог акумуліравацца іменна ў вобразе нявесты, маладаой, мы, зрэшты, маглі назіраць на прыкладзе «Трэнаса». Таму дадамо да нашых назіранняў толькі асобныя рысы, якія здаюцца надзвычай важнымі: «...як адзіная дачка ў сваёй маці, я была падаравана ёй адзінай чыстай галубкай, нявіннай, цнатлівай і нічым не апаганенай... За гэту прыгажосць маю кароль, прыгажэйшы за ўсіх сыноў людскіх, пажадаў майго хараства, а пакахаўшы мяне, з'яднаў з сабою вечным сямейным шлюбам... Аднаму мужу была пашлюбёна, за аднаго выдадзена замуж, ад аднаго зацяжарыла, у адным чэраве насіла, адным малаком карміла, аднак (нажаль!) сыноў розных звычаяў, на пакуту і сорам свой, бачу... Лепей мне, па праўдзе кажучы, было б безпатомнай быць, чым глядзець цяпер на такую гушчу сваіх бязбожных сыноў»[3].

Надзвычай важна, што вобраз нявесты аб'ектыўна набывае тут значэнне сімвала адраджэння праваслаўнай веры, народнасці, краю, як бы павернутых назад з пары заняпаду ў пару свайго дзяржаўнага росквіту і славы, да нейкай ідэальнай першапачатковай сутнасці.

Асэнсаванне вобраза нявесты як сімвала дзяржавы і дзяржаўнасці, замацаванне за ім гэтага метафарычнага значэння выразна

---

[1] Полное собрание русских летописей. М., 1962. Т.1. С.76.
[2] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. С.71-72.
[3] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. С.263-268.

вызначылася ўжо ў літаратуры Кіеўскай Русі, ў перыяд станаўлення феадалізму і ўтварэння феадальных дзяржаў, калі дынастычныя шлюбы з'яўляліся адной з найбольш дзейсных формаў дыпламатыі і ажыццяўлення дзяржаўнай палітыкі.

Успомнім, што менавіта так - іншасказальна — праз вобраз выбару нявесты кіданнем жэрабя - расказаў невядомы аўтар «Слова аб паходзе Ігаравым» пра здабыццё полацкім князем Усяславам-Чарадзеем кіеўскага пасада: «На седьмом веце Трояни връже Всеславъ жребий о девицю себе любу. Тъй клюками подпръся о кони и скочи къ граду Кыеву, и дотчеся стружиемъ злата стола Киевского»[1].

Часцей за ўсё ў вобразах старажытнай літаратуры дынастычны шлюб - жаніцьба, замужжа, зрэдку пасяганне на гонар нявесты маюць дакладна вызначаны палітычны сэнс, адлюстроўваюць пэўную ступень палітычнай залежнасці, падначаленасці якой-небудзь дзяржавы, ці нават сведчаць часам аб поўнай страце ёю сваёй самастойнасці і суверэнітэту. Альбо, наадварот, сімвалізуюць заключэнне выгаднага палітычнага пагаднення, умацаванне і прырост дзяржаўнай сілы.

Класічным прыкладам могуць служыць дынастычныя шлюбы Уладзіміра з Рагнедай і візантыйскай прынцэсай крыві Ганнай.

Адзначым, дарэчы, што ў Лаўрэнцьеўскім летапісу пад 1128 годам гісторыя падзення Полацкага княства, страты ім сваёй незалежнасці суправаджаецца карцінай здзеклівага, бязлітаснага глумлення Ўладзіміра над Рагнедай-нявестай: «и взяша городъ и самога (князя Роговолода) яша и жену его и дщерь его. И Добрына поноси ему и дщери его нарекъ ей робичица. И повелѣ Володимеру быти с нею пред отцемъ ея и матерью. Потом отца ея уби, а саму поя женѣ и нарекоша ей имя Горислава»[2].

Як бачым, вобраз Гарыславы — зганьбаванай нявесты, а затым жонкі Ўладзіміра па сутнасці атаясамліваецца летапісцам з вобразам растаптанай незалежнасці, славы і годнасці Полацкай зямлі, гэтаксама, як вяртанне пасля «отчины ея», аднаўленне самастойнага Полацкага княства зноў-такі сімвалічна асэнсоўваецца цераз абрад падрыхтоўкі Рагнеды як бы да паўторнага «посагу». Прычым летапісец паказвае сябе спакушаным у сваёй справе майстрам, спалучаючы ў вобразе Рагнеды-нявесты два сімвалічныя сэнсавыя значэнні: пагрозу смерці пасля няўдалай спробы адпомсціць Уладзіміру, і вяртанне ёй і сыну адабранай «отчины». Бо летапісец помніць і паслядоўна злучае ў

[1] Слово о полку Игореве. Древнерусские тексты и переводы, С.102.
[2] Полное собрание русских летописей. Т.1. С.300.

сюжэце свой расказ аб скасаванні шлюбу паміж Рагнедай і Ўладзімірам з тым часам, калі апошні гвалтам завалодаў Рагнедай-нявестай, па словах гераіні, «отца моего убив и землю его полони мене деля». Менавіта гэтая акалічнасць і вытлумачвае нам, чаму лёс Рагнеды, якая рыхтуецца па загаду Ўладзіміра «оустроитися во вею тварь царьскую, яко- же в день посага ея», каб прыняць смерць «на постели свѣтлѣ. В храмине», на першы погляд, нечакана паварочваецца ў зусім іншы бок пасля парады, якую даюць сваййму князю баяры: «оуже не оубии ея дѣтяти дѣля сего. Но вѣздвігни отчизну ея»[1].

Як сведчаць летапісы, гэтак жа рашуча і цвёрда адхіліла пасля Рагнеда прапанову Ўладзіміра, які, відаць, жадаў захаваць над Полацкім княствам сваю апеку, выбраць сабе мужа з ліку яго вяльмож, абраўшы сабе і для Полацкай зямлі лёс «вечнай нявесты» — Хрыстовай.

Былыя і сучасныя гісторыкі Беларусі, як засведчыў гэта ў сваёй кнізе «Старажытная Беларусь» М.Ермаловіч, сёння сыходзяцца ў тым, што «горды воблік Рагнеды навечна адбіўся ў памяці народа як «зыходная падзея» (Д.Леанардаў — Г.П.) яго гісторыі», што ён «увасабляе канчатковае заваяванне Полацкам сваёй незалежнасці»[2].

У сваю чаргу, маючы на ўвазе Купалу і створаны ім вобраз Маладой Беларусі, што займае «свой пачэсны пасад між народамі», дарэчы будзе нагадаць выказванне В.Р.Бялінскага, які некалі вельмі пранікліва заўважыў: «Што ў народзе падсвядома жыве як магчымасць, тое ў геніі з'яўляецца як здзяйсненне, як спраўджанасць»[3].

Пры гэтым няцяжка заўважыць, што і свой ідэал грамадскага і дзяржаўнага ўладкавання жыцця паэт таксама шукае найперш у патрыярхальна-вечавых часах палітычна незалежнага і самастойнага Полацкага княства. Прыхільнасць Янкі Купалы да Полацка грунтавалася яшчэ і на некаторых іншых надзвычай прывабных для рамантыка і песняра прыгнечанай мужыцкай нацыі сведчаннях нацыянальнай гісторыі.

У прыватнасці, гісторыкі звяртаюць увагу на тую акалічнасць, што пры ўтварэнні Кіеўскай Русі як феадальнай дзяржавы Полацкае княства выступіла абаронцам патрыярхальнага ўкладу грамадскага жыцця, заснаванага на прынцыпах вечавога самакіравання. Гэтую палітыку традыцыйна праводзілі ўсе полацкія князі, пачынаючы з Рагвалода. М.М.Варонін у артыкуле «Паўстанне смердаў у XI

[1] Полное собрание русских летописей. Т. 1. С.300-301.
[2] Ермаловіч М. Старажытная Беларусь. Гістарычныя нарысы// Маладосць.— 1988.- № 8.— С.105.
[3] Белинский В.Г. Эстетика и литературная критика: В 2 т. М., 1959. Т.І. С.594.

стагоддзі» паказвае, што паходы Ўсяслава на Пскоў (1065), Ноўгарад (1066), як і паўстанне ў Кіеве (1068), якое ўзначаліў полацкі князь, былі звязаны з сацыяльным пратэстам смердаў і гарадскога плебса супраць феадальнага закабалення і сацыяльнага расслаення, гэта значыць выдзялення прадстаўнікоў абшчыннай верхавіны ў нізавую праслойку класа феадалаў[1].

Гэтыя і некаторыя іншыя гістарычныя рысы жыццёвага ўкладу Полацкага княства, напрыклад, імкненне да палітычнай самастойнасці, вядучая роля ў грамадскім і эканамічным жыцці смерда-селяніна, адносная неразвітасць сацыяльных супярэчнасцяў, патрыятызм і вольналюбівыя традыцыі палачанаў,— аказаліся як найлепш адпаведнымі купалаўскаму ідэалу Маладой Беларусі, рамантычным уяўленнем паэта аб ёй як аб гордай, незалежнай, дэмакратычнай мужычай дзяржаве вольнай працы.

У гісторыі і гістарычных асобах Полацкай зямлі — Рагвалода, Рагнеды, Усяслава-Чарадзея, Ефрасінні Полацкай - шукаў Купала і тое, што В.Р.Бялінскі назваў некалі як «зародак, зерне нацыянальнага духу»[2]. Пры гэтым вобраз старажытнай Полацкай зямлі і яе герояў становіцца для паэта своеасаблівым камертонам, па якому ён выявярае ідэал будучага дэмакратычнага дзяржаўнага жыцця свайго народа. Напрыклад, як у вершы «Каб я князем быў...»:

Каб я князем быў уладарным
Гэтых ніў і хат,—
Быў бы князем гаспадарным.
Вёў бы добры лад;

На насадным месцы б селі
Права і закон,

Праўду вечную ўсе б мелі —
Вечавы свой звон. [III, 59]

Няцяжка пераканацца, што пазітыўнае асэнсаванне вобраза князя звязана тут з распрацоўкай паэтам ідэі дзяржаўнасці Маладой Беларусі, абгрунтаваннем і сцвярджэннем яе права на самастойнае развіццё. Прычым, гераічнае паходжанне вобраза найбольш пераканальна вытлумачваецца (зноў-такі) праз зварот да вечавых часоў Полацка і асобы Ўсяслава, у прыватнасці, да той характарыстыкі, якая замацавалася за ім у «Слове аб палку Ігаравым»:

[1] Воронин Н. Восстание смердов в Xl веке//Исторический журнал.- 1940.- № 2,- С.54-61.
[2] Белинский В.Г. Эстетика и литературная критика. Т.1. С.543.

«Всеславъ князь людемъ судяше, княземъ грады рядяше, а сам в ночь влъком рыскаше до курѣ Тмутороканя, великому Хрѣсови влъком путь прерыскаше. Тому въ Полотске позвониша заутренюю рано у святыя Софеи въ колоколы, а онъ в Кыеве звонъ слыша»[1].

Заглядваючы амаль ці не ў тысячагадовую гісторыю свайго народа і знаходзячы ў ёй аналогіі і відавочнае сугучча сучасным падзеям і грамадскім працэсам, Купала аказаўся, такім чынам, надзвычай чулым да дыялектычнай хады гісторыі, што ўзыходзіла як бы «па старым рэчышчы» на новы віток свайго развіцця.

Гераічны вобраз Рагнеды пры такім успрыняцці мінулага аказаўся для паэта не толькі як бы зыходным пунктам нацыянальнай гісторыі, увасабленнем велічы і драматызму народнага лёсу, а таксама непахіснасці, цярпення, мужнасці як адвечных, нескажоных рыс нацыянальнага характара, але і сімвалам узыходжання нацыі на новае кола свайго дзяржаўнага існавання. Гэтыя абставіны найперш і прадвызначылі цэнтральную, ключавую ролю постаці Рагнеды ў пошуку мастацкай канцэпцыі вобраза Маладой Беларусі-нявесты ў лірыцы і паэтычным эпасе Я.Купалы 1909-1913 гг.

Адлюстраваннем глыбокай і ўстойлівай цікавасці як да асобы самой гераіні, так і да эпохі старажытнага Полацка, з'явілася і спроба стварэння паэтам гістарычнай паэмы «Гарыслава» (1912), у аснову якой аўтар меркаваў пакласці падзеі, апісаныя ў Лаўрэнцьеўскім летапісу пад 980 і 1128 гг., вядомыя як «гісторыя Рагнеды і Ўладзіміра».

Твор, як вядома, застаўся незакончаным. Дакладна распрацаваны план паэмы, за выключэннем уступу і невялікай першай часткі, не быў рэалізаваны. З гэтай нагоды даследчыкі выказваюць розныя меркаванні, разбіраць якія тут было б не да месца. А таму абыдземся толькі ўласнай версіяй: адна з прычын, як здаецца, заключаецца ў тым, што найбольш значная грамадская ідэя, ідэя нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, якую ў патэнцыі змяшчаў вобраз Рагнеды, аказалася па сутнасці вычарпанай ужо ў паэме «На куццю» (1911) — творы, пабудаваным на сугучных рамантычных асацыяцыях, навеяных усё той жа гераічнай эпохай Полацка. Уваскрэсенне на руінах старажытнага замка духаў князя, Княжны, вольнай дружыны і беласнежнага пасаду сімвалізуе ў паэме «На куццю» не толькі дух колішняй рыцарскай сілы і годнасці, волі і гордай, незалежнай дзяржаўнасці, але, найперш, сённяшнія непазбыўныя надзеі бяспраўнага, забітага, пазбаўленага ўласнай дзяржаўнасці народа на аднаўленне ўласнага пасада, занятага «другімі», прышлымі “багамі”.

[1] Слово о полку Игореве: Древнерусские тексты и переводы. С. 102.

Менавіта гэтая думка вызначае сэнс прамовы князя-Духа да ўсіх, хто сабраўся на памінальны абрад «куцці»:

Адзін, адзін раз толькі ў год
Збірацца можам з ласкі року,
Каб лет іржавы карагод
Зганяць з мінуўшчыны далёкай.

Нас не кранулі косы змен:
Царым мы ў душ жывым гэйнале,
Хоць на падмурках гэтых сцен
Другія наш пасад занялі.

Багі другія верх бяруць.
Суды вядуць над нашым краем,
Святыльні ж нашы не замруць,
Што ў сэрцах вольных рассвятляем[1]

Прамаўляючы да духу продкаў, уваскрашаючы забытыя вобразы князя, княжны, пасада, рыцараў, гусляра, вечавых званоў, паэт, вядома ж, быў заклапочаны праблемамі цалкам сучаснымі, можна сказаць, нават злабадзённымі. Так, у сімвалічных рапартах Князевых пасланцоў — Прарока, Воіна і Гусляра, якія прыносяць князю «весці ад нашых стаптаных капцоў», змешчана, па сутнасці, цэласная канцэпцыя нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння. Яго гістарычныя перадумовы паэт звязвае з тым, што народ прагне святла праўды, яснага ўсведамлення свайго шляху, мэты (Прарок), што ён адклікаецца на заклік да ўзброенай барацьбы (Воін) і гукі роднай песні (Гусляр).

Невыпадкова, што ў двух заключных строфах гэтыя выразныя самі па сабе алегорыі сімвалічна абагульняюцца і атрымліваюць працяг у вобразах узвядзення на пасад дабранай старана», «скаванай мучаніцы-княжны» і вечавых званоў:

Ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны,
Раз хочуць сонца, славы, песні;
Заб'юць ім зычныя званы
Прабудным звонам на прадвесні.

Сваёй забранай старане,
Скаванай мучаніцы-княжне,
Ўзнясуць пасад на кургане

---

[1] Купала Я. На куццю//Паэмы. Драмтычныя творы. Мн., 1989. С.59.

На панаванне недасяжне[1].

Патрэбна заўважыць, што ідэя адраджэння прадубліравана у паэме некалькі разоў і некалькімі рознымі спосабамі. Не кранаючы больш абраду памінак і пакінуўшы да пары ключавы ў паэме вобраз узвядзення на пасад «мучаніцы-княжны», адзначым найперш уплыў на яе станаўленне традыцый «Дзядаў» А.Міцкевіча і «Караля-Духа» Ю.Славацкага[2].

У прыватнасці, можна выказаць меркаванне, што канструктыўная ідэйная задума вобраза князя ўзыходзіць да вобраза Кара- ля-Духа з аднаіменнай паэмы Ю.Славацкага, дзе гэты апошні сімвалізуе дух адраджэння, які як бы пераходзіць па чарзе «з народа ў народ».

Варта звярнуць увагу і на відавочнае падабенства купалаўскага Прарока, які тварам і вачыма «гэткі светлы быў//Як небам сланыя праменні//У руцэ меў светач, што на здзіў//Усе ўсюды зводзіў цені»[3], з анёлам Адраджэння ў Ю.Славацкага:

Jeszczem się dziwił temu — a już oto
Szedł siódmy, dziwny, że bez ziemskej treści!
Tęczę miał ciałem — i całą robotą
Swoją - miał tęczę - na krzyż sie boleści

Owijająca… Przyszedł, zda się, po to,
Aby dał pierwszy o aniołach wieści.
Ten mi się dziwnie, jak sen jaki, ziawił,
Poszedł — a cień swój na ścianie zostawił…[4]

Здіўлення майго не сышлі яшчэ раты,-
Сёмы ішоў, дзіўны, як незямная
Вясёлка, якая тым толькі занята,
Што крыж гаравання сабой аздабляе.

Дзіўны, той сёмы, як сон, быў і згінуў –
Зчэз, але цень свой на сцяне пакінуў[5].

Галоўны ўрок, які давала пры гэтым польская рамантычная паэзія, заключаўся ў тым, што яна вучыла паэта ўглядацца ў сваю ўласную гісторыю, шукаць у ёй сюжэты і вобразы для рамантычных фантазій, каб запальвацца ад іх творчым натхненнем.

---

[1] Купала Я. На куццю. С.62.
[2] Гл. аб гэтым таксама: Калеснік У. Тварэнне легенды. С.380.
[3] Купала Я. На куццю. С.60.
[4] Słowacki J. Król-Duch. S.124.
[5] Пераклад А.Лойкі

Дарэчы, апісанне ў паэме «На куццю» памінальнай княжацкай вячэры з вольнай дружынай і, вядома ж, яе завяршальны вобраз «мучаніцы-княжны», што гатова ўзысці на падрыхтаваны ёй вечны пасад, якраз і прымушаюць успомніць ужо вядомую гісторыю Рагнеды і аднаўлення «отчины ея<175, а таксама застоллі Ўладзіміра ў тым жа Лаўрэнцьеўскім летапісу[1].

Зрэшты, звяртаючы ўвагу на гэтыя даволі выразныя гістарычныя асацыяцыі, наўрад ці варта шукаць у вобразах князя і княжны, у рамантычнай, багатай на творчы вымысел і фантазію паэме нейкай прамой гістарычнай дапасаванасці, тым больш прымерваць іх да канкрэтных гістарычных асоб Рагвалода, Усяслава, Рагнеды альбо Ўладзіміра. Прынцыпова важна аднак, што менавіта гісторыка-літаратурныя характарыстыкі гэтых вобразаў, традыцыі старажытнай пісьменнасці ў цэлым адыгралі вызначальную ролю ў фарміраванні ідэі нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі, дазволіўшы паэту асэнсаваць і выпрабаваць ключавую для вобраза Маладой Беларусі ідэю пасвячэння ў дзяржаўны сан праз надзвычай ёмісты і змястоўны вобраз узвядзення гераіні на вечны пасад.

Пры гэтым варта зазначыць, што сама задума вобраза Маладой Беларусі як «вечнай нявесты» — самой на пасадзе — пачала складвацца ў самастойную творчую ідэю яшчэ раней, прыкладна на рубяжы 1909-1910 гг., яшчэ ў віленскі перыяд, калі пад уплывам В.Ластоўскага, братоў Івана і Антона Луцэвічаў, Б.Даніловіча Купала ўпершыню так грунтоўна і глыбока захапіўся старажытнай гісторыяй Беларусі. Таму нельга выключыць, што поруч з вобразам Рагнеды адпаведным творчым імпульсам (дадатковым, ці, магчыма, нават першапачатковым) мог паслужыць і вобраз Ефрасінні Полацкай. Прычым, напачатку, відаць, не столькі жыційны, як грамадска-гістарычны, выкліканы рэальнай падзеяй — перанясеннем у 1910 годзе з Кіева-Пячорскай лаўры ў Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр святых мошчаў Ефрасінні Полацкай, аб якой, як паведамляў Віленскі каляндар на 1910 г., «гаручымі слязьмі маліла міласэрднага Госпада краіна Полацкая, каб пільная і руплівая заступніца... вярнулася на месца сваіх зямных подзвігаў»[2]. Патрэбна ўлічваць таксама, што ў грамадскай свядомасці таго часу, як аб гэтым можна меркаваць на падставе некаторых матэрыялаў «Витебской старины», са смерцю Ефрасінні Полацкай звязваўся канец палітычнай незалежнасці Полацкага княства. Такім чынам, з мінулага як бы працягвалася жывая нітка да су-

[1] Полное собрание русских летописей. Т.1. С.126.
[2] Преподобная Ефросиния княжна Полоцкая//Виленский календарь на 1910 г. Вильно, 1909. С.2. (приложение)

часнасці. Сама ж падзея прыдавала ўсёй постаці славутай палачанкі выразны адраджэнцкі характар. Не кажучы ўжо аб тым, што асветніцкі подзвіг Ефрасінні, сіла і цвёрдасць духу, прага вечнай памяці ў нашчадках аказаліся як бы непасрэдна прыналежнымі да агульнай атмасферы нацыянальнага адраджэння.

Купала, які якраз у гэты час быў заняты пошукам найбольш выразнай мастацкай і гістарычнай канцэпцыі вобраза Маладой Беларусі, мог, ды папросту быў абавязаны акумуліраваць у сваёй творчай фантазіі падобныя вобразныя гістарычныя асацыяцыі, што на глебе грамадскіх настрояў складваліся цяпер у канцэптуальна цэласную, завершаную постаць уваскрэслай да новага жыцця радзімы. Ва ўсякім разе, у вершы 1911-1912 г. купалаўскі вобраз заручонай з сонцам, «як жывы агняцвет», Беларусі-нявесты, якую «не пужае сумежны дакучны сусед, не пужае пуціна цярністая», аб'ектыўна захоўвае, «тоіць» у сваіх генах і вобраз полацкай княжны і нявесты Хрыстовай, якім ён прадстае перад намі з жыційнага панегірыка: «Ким убо языком достоить нам похвалити братие светозарную память преблаженныя нейсты Христовы Ефросинии?!... Еуфросиниа - неувядающий цвет райского сада! Еуфросиниа - небопарный орел, попаривши от Запада и до Востока, яко луна солнечная, простивши всю землю полоцкую»[1].

У сувязі з распрацоўкай паэтам ідэі вечнай, незалежнай і вольнай айчыны варта звярнуць увагу і на такую надзвычай важную заканамернасць: кожны раз, калі ідэал Маладой Беларусі ўваходзіць у рэзкае сутыкненне з рэчаіснасцю калі магчымасць яго дасягнення бярэцца пад сумніў, поруч з вобразам Беларусі-нявесты з'яўляецца постаць жаніха альбо аўтар стварае фарсавы вобраз вяселля як, скажам, у вядомай драматычнай паэме “Сон на кургане” Вобраз маладой пры гэтым парадыйна зніжаецца набывае вульгарныя рысы, пераводзіцца ў нізкі, бытавы план. З’ява гэтая двойчы назіраецца ў паэзіі Янкі Купалы. Прычым, у самы цяжкія і адказныя, вызначальныя для лёсу радзімы часы, калі апетая паэтам як вольная і незалежная, Беларусь зноў стала «забраным краем».

Так у вершы «Паязджане» (1918) Беларусь ужо не маладая ў ззянні славы, годнасці і цноты, а «маладуха», напалоханая і разгубленая, беспрытульная паязджанка:

Папаўзуха-завіруха
Шэпча, шэпча штосьці да вуха
Аб музыцы-дудаграі,

[1] Житіе преподобныя Евфросиніи княжны полотскія 1889. С.24/изд.А.Сапунова. Витебск.

Аб пшанічным караваі.

Снежным надзячы начлегам,
Пасыпае сном і снегам,
Лазам лезе ў сэрца, у вочы.
Зазірае патарочай.

Маладога к маладусе.
Свата к свацці-пасядусе,
Да закосніцы закосню
Жах прытульна прыкаросніў. [IV, 43-44]

Глыбокі гістарызм паэтычнага мыслення Я. Купалы абумоўліваў, такім чынам, няўхільную мадыфікацыю вобраза Маладой Беларусі. У гэтым плане яго паэтычнае ўвасабленне ў дакастрычніцкі час і творчасці другой паловы 20-х гадоў мае адрозненне: цяпер, калі Беларусь займела свой уласны лёс, калі рамантычны ідэал у асноўным рэалізаваны, вобраз Маладой Беларусі набывае як бы зямныя, рэалістычныя рысы, набліжаецца да чытача ў блізкай і зразумелай аздобе сялянскага вяселля. Губляе рысы манументальнай аддаленасці ў гістарычную перспектыву мінулага і традыцыйны для паэта абрад узвядзення Беларусі на пасад, хоць ідэйны сэнс вобраза, яго генетычны спадчынны код застаецца па-ранейша- му непарушным.

Напрыклад, як у шостай, кульмінацыйнай частцы паэмы «Безназоўнае»:

Беларусь на куце
Ў хаце сваёй села,—
Чарку мёду ў руцэ,
Пазірае смела.

Сядзіць важна, сама
Сабе гаспадыня,
І прыбрана яна —
Ніхто не закіне:

На галоўцы вянок
З сініх васілёчкаў,
А чырвон паясок
Стан абвіў дзявочы. [V, 145]

Гэтыя красамоўныя, ёмістыя і дакладныя па сэнсу дэталі, што складаюць як бы дзяржаўную геральдыку Беларусі, сімвалізуюць усё

той самы, часткова рэалізаваны ўжо палітычны і духоўны ідэал Маладой Беларусі, якая выступае цяпер ужо ў абліччы гаспадыні.

Пры гэтым патрэбна надзвычай дакладна ацэньваць выраз «сама сабе гаспадыня»: яна не проста гаспадыня ва ўласнай хаце, але адзінаўладная гаспадыня, бо над ёю няма ні гаспадара, ні ўладара. І ў гэтым сэнсе яна па-ранейшаму - нявеста.

Вянок з тутэйшых палявых кветак — «сініх васілёчкаў» — на галаве Беларусі сведчыць аб яе сялянскім, «тутэйшым» паходжанні і дэмакратычным, народным характары.

Гэтаксама, жадаючы звярнуць увагу на тое, што яе суверэннае, незалежнае становішча забяспечваецца рэвалюцыйным нараджэннем і самаахвярнай, патрыятычнай барацьбой лепшых прадстаўнікоў народа, Купала ўводзіць вобраз чырвонага паяска на маладой, паэтычна асэнсоўваючы сімволіку цноты, што традыцыйна замацавана за гэтай дэталлю абрадавага ўбрання нявесты, дарэчы, як і спалучэнне ў ім бел-чырвона-белай гамы колераў беларускага сцяга, у якасці сімвала суверэннага нацыянальнага развіцця маладой дзяржавы.

Такім чынам, і ва ўмовах сацыялістычнага будаўніцтва 20-х гадоў Янка Купала пацвердзіў адданасць ідэалу дэмакратычнага развіцця народа ў незалежнай, самастойнай, вольнай ад сацыяльнага і нацыянальнага прымусу дзяржаве, пазначыўшы той адзіны годны шлях, якім мусіць ісці Маладая Беларусь, каб здабытая ёю слава «не шчэзла ў векаў пыле».

Натхнёная прарочая візія мінулага, апора на ўнікальны ду- хоўна-гістарычны вопыт народа, класічныя традыцыі славянскага рамантызму дазволілі паэту разгледзець пад попелам мінуўшчыны жывое аблічча сучаснай і накрэсліць контуры будучай - вечна маладой, квітнеючай, «бесперапыннай» у часе Беларусі, адлюстравалі вышэйшы момант у станаўленні нацыянальнай думкі, у мастацкім самаўсведамленні народам свайго непаўторнага гістарычнага лёсу.

## СЛАВЯНСКИЙ РОМАНТИЗМ ЭПОХИ НАЦИОНАЛЬНО-ОСВОБОДИТЕЛЬНЫХ ДВИЖЕНИЙ И ОЬРАЗ БЕЛОРУССКОГО НАЦИОНАЛЬНОГО ВОЗРОЖДЕНИЯ В ПОЭЗИИ ЯНКИ КУПАЛЫ

*Резюме*

Творчество Янки Купалы принадлежит тому течению в славянском романтизме, которое непосредственно отразило цели и пафос национально-освободительного движения угнетенных славянских народов конца XVIII - начала XX вв. Определяющая, специфическая черта этого течения - его возрожденческий характер, стремление к поиску новой концепции личности и народа, форм национальной жизни, основанной на историческом и духовно-культурном фундаменте прошлого, возрождении забытых и утраченых или же мифических, условно относимых к прошлому, традиций. Величие и титанизм Купалы - поэта глубоко национального и одновременно славянского, всечеловеческого - в необычной поэтической силе и глубине созданного им образа социальной и национально-духовной эмансипации и раскрепощения народа, его эпохального движения из прошлого в будущее, «из беспросветной тьмы к ясному солнцу» «из бесчестья к славе». Близкие или созвучные поэзии Я.Купалы темы, образы, мотивы, настроения присутствуют в творчестве М. Лермонтова и К.Рылеева, хорвата Станко Враза и словена Франце Прешерна, болгар Петко Словеикова и Любена Коравелова. словаков и чехов Яна Коллара, Франтишека Челаковского, Карела Маха, Людовита Штура, Янко Краля и др. Развиваясь по типу «краевого» польского романтизма, поэзия Купалы испытала особенно сильное влияние А.Мицкевича и Ю.Словацкого. Прежде всего в том, что касается пророческой, жертвенной миссии поэта в освободительном движении, а также поиска им целостной философской концепции национального возрождения, сориентированной на мировоззренческие и историко-бытийные начала собственного народа. При этом понимание Я.Купалой источника и перспектив возрождения свободно от свойственного польскому романтизму религиозного мистицизма. Если в польской романтической поэзии идея возрождения Польши чаще всего соотносится с мотивами непорочного зачатия Девой Марией Христа и рыцарского служения даме сердца, т.е. рассматривается как мистическая идея возрождения через Дух, то у Купалы она получает совершенно иную, самостоятельную интерпретацию, благодаря романтическому сближению образа Молодой Беларуси с образами реальных исторических личностей - Рогнеды и святой Ефросинии Полоцкой, символизирующих своим мужеством, подвижничеством и добровольно избранной судьбой «невест Христовых» вечный расцвет и бытие Беларуси державной, вольной, независимой, суверенной.

SLAV ROMANTICISM OF THE AGE OF NATIONAL LIBERATION NOVEMENT AND BYELORUSSIAN NATIONAL REVIVAL IN THE POETRY OF JANKA KUPAŁA

*Resume*

The works of Janka Kupała belong to the trend in Slav romanticism which reflected directly the aims and inspirations of oppressed Slav nations in the end of 18-th/beginning of 20-th Century. The defiing, specific feature of that trend is its resuscitative nature, its search for new conception of nation and personality and of national life mode based on historical, Spiritual and cultural foundation of the past, on revival long-forgotten and lost or mythical traditions and tradicions conventionally belonging to the past. Greatness and titanism of Kupala who is profoundly national and at the same time Slav and universal poet manifests itself in the fact that vith unusual poetical strength and depth he created the image of social and national and spiritual emancipation and liberation of the people, its epochal movement from the past to the futurę, «from dense darkness to bright sunlight», «frotp. dishonour to glory». Themes, images, motives and sentiments similar or ailied to J.Kupala poetry are present in the works of M.Lermontov, K.Ryleev, in the works of the Croat Stańko Wraz, the Slovene Franze Preshern, the Bulgarians Petko Sloveykov and Lüben Koravelov, the Slovaks and Czechs Jan Kollar, Frantishek Chelackovsky, Carel Makh, Ludwit Shtur, Janko Cral and others. Though the poetry of Janka Kupala was developing in accordance with the model of «local» Polish Romanticism, it experienced especially great influence of A.Mitskevich and J.Slovatsky. First and foremost it concerns prophetical and sacrificial mission of the poet in liberation movement and also his search for integral phylosophical conception of national revival oriented to ideological, historical and moral principles of his nation. But J.Kupala's conception of the source and prospects of revival is free from religious mysticism characteristic of Polish romanücism. While in Polish romantic poetry the idea of national revival of Poland most often correlates with the chaste conception, Saint Virgin, Christ and chivalrous service to the lady-love (that is to say, it is regarded as a mystic idea of revival through the Spirit), Janka Kupala gives it entirely different, independent interpretation. He romantically draws together the image of Young Belarus and the images of real historical Personalities: Rogneda and Saint Ephrosinia of Polotsk who symbolize with their currage, selfless life and voluntarily chosen destiny of «Christ brides» the eternal fiourishing and existence of powerful, free, independent and sovereign Belarus.